

# Малое ПАЛЕСЬСЕ



Нумар 3 Лістапад 2000 222010 Крупкі вул.Кутузава'7 тэл.(01796)56896 mp@crossrd.org.by Наклад 150 ас.

МОЛАДЗЕВАЕ ВЫДАНЬНЕ КРУПШЧЫНЫ

# ГЕРБ НАШАГА ГОРАДА

**Герб горада Крупкі зацьверджаны рашэньнем крупскага райвыканкаму 27 траўня 1999 году. У блакітным полі – хвалепадобны срэбны пас. Зьверху – срэбнае кола млына, долу – срэбная галінка травы "крупкі" з залатымі кветачкамі на ёй.**

Колеры герба адпавядаюць эўрапейскай геральдычнай традыцыі і падкрэсьліваюць нашыя спрадвечныя, лепшыя якасьці беларускага характару.

Блакітны колер сымбалізуе сабой годнасьць, вернасьць, бездакорнасьць, а таксама неба й ягоную Боскую сутнасьць.

Срэбны колер лічыцца сымбалем характва, справядлівасьці і цнатлівасьці.

Залаты колер адлюстроўвае міласэрнасьць, вялікадушнасьць і каханьне.



*Герб Крупак*

Элемэнты герба:

**Хвалепадобны пас (рака):** назву Крупкі наш горад узяў ад рэчкі Крупка (Крупеніца, Курнееўка), што цячэ праз усё мястэчка і ўпадае ў раку Бобр. Гідронім "Крупка" бярэ сваю назву ад старабеларускага слова "крупка", што азначае кароткі незамярзаючы прыток ракі.

**Кола млына** сымбалізуе сабою млын на рацэ Бобр, які на працягу XVII-XIX ст.ст. зьяўляўся своеасаблівай "візытоўкай" мястэчка Крупкі. Першая згадка аб ім тычыцца 1667 году (тарыф падымнага падатку Аршанскага павету за гэты год). Далей у гістарычных крыніцах наш млын праходзіць у 1765, 1812, 1859г.г. "Слоўнік гэаграфічны Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх" (т.І. Варшава, 1880) сьведчыць: "У мястэчку Крупкі губэрні Магілёўскай на Бабры ёсьць млыны, на якіх вырабляецца найдалікатнейшая мука пшоная і пад назваю Крупецкай альбо Крупчаткі развозіцца да найгалаўнейшых гарадоў".

Паходжаньне тапоніма "Крупкі" зьвязанае таксама з назваю **травы-кветкі "Крупка дуброўная"**, што ў неабмежаванай колькасьці расьце на рэках Бобр і Крупка ў навакольлях нашага мястэчка.

**Андрэй Аляхновіч**

# ЮНЫЯ ПАМОЧНІКІ АРХЭОЛЯГАЎ

**Падчас летняга палявога сэзону школьнікі зьяўляюцца надзейнымі й амаль адзінымі памочнікамі архэолягаў. Дзіцячая цікавасьць, руплівасьць, сумленнасьць, паслухмянасьць і бескарыснасьць – вось якасьці, якія дапамагаюць нам вучоным-архэолягам пасьпяхова праводзіць свае досьледы і вывучаць мінулае нашай Бацькаўшчыны.**

У шмат якіх кутках Беларусі працавалі ўсё лета вучні разам з архэолягамі Нацыянальнай акадэміі навук. Ужо добрай традыцыяй стала супрацоўніцтва на базе летніх аздараўленчых лягероў. Навукоўцы вельмі ўдзячныя нашым памочнікам, а таксама настаўнікам, кіраўнікам і арганізатарам гэтай сумеснай працы.

*Працяг на с.2*



СПАДЧЫНА

# ЮНЫЯ ПАМОЧНІКІ АРХЭОЛЯГАЎ



Працяг. Пачатак на с.2

Аб адным з такіх эпізодаў распавяду падрабязьней, бо на нашую думку, гэта ўзор якаснага і карыснага супрацоўніцтва школы і навукі.

У чэрвені Інстытут гісторыі сумесна зь Менскім абласным краязнаўчым музэем праводзіў археалягічныя раскопы гарадзішча на высьпе возера Сялява каля вёскі Янаўшчына Крупскага раёну Менскай вобласьці. На базе Янаўшчынскай школы дырэктаркай Л.Л.Зубовіч быў арганізаваны аздараўленчы лягер (начальнік С.М.Лапановіч), дзе адпачывала каля 200 вучняў рознага ўзросту з усяго Крупскага раёну. Выказваем падзяку загадчыку Крупскага РАНА А.А.Зайцаву за дапамогу ў стварэньні вучнёўскага археалягічнага атраду. Менавіта на працы сябраў гэтага краязнаўча-археалягічнага гуртка нам бы хацелася зусяродзіць увагу.



Асноўная маса сябраў гуртка ўваходзіць у рэгіянальную арганізацыю "Скаўты і краязнаўцы Малога Палесься" Рэспубліканскага аб'яднаньня беларускіх скаўтаў. Кіруе імі апантаны краязнаўца, настаўнік гісторыі Крупскай школы №1 А.П.Аляхновіч, які шмат увагі і часу аддае знаёмству юных сьледапытаў з гісторыяй роднага краю, выхоўвае ў дзяцей любоў і павагу да роднай Бацькаўшчыны. Дзякуючы ўмелай арганізацыі, кіраўніцтву і добрасумленнай працы вучняў, мы пасьпяхова правялі раскопы й атрымалі вельмі цікавыя матар'ялы. Школьнікі мелі магчымасьць на практыцы адчуць подых стагодзьдзяў, даведацца як жылі нашыя продкі, чым займаліся, якія ў іх былі рэлігійныя вераваньні і гістарычныя лёсы.

Падчас раскопаў былі выяўленыя звыш 100 індывідуальных знаходак з косьці, жалеза, бронзы, гліны. Упершыню ў Беларусі раскапаны цікавы рытуальны комплекс са шматлікімі касьцьмі-абярэгамі, выяўленыя мэталюргічныя горны па выплаўцы жалеза, цікавыя керамічныя калекцыі розных археалягічных культураў жалезнага веку. Уся археалягічная калекцыя з раскопаў мае шырокі краналягічны дыяпазон ад каменнага веку да эпохі позьняга сярэднявечча. Матар'ялы раскопаў вельмі цікавыя і маюць вялікую навуковую значнасьць.

Пасьля правядзеньня раскопаў у школе была падрыхтаваная часовая выстава па выніках досьледаў, дзе вучні і ўсе ахвотныя маглі азнаёміцца з матар'яламі раскопаў і паслухаць расповед аб археалёгіі, аб скарбах беларускай зямлі і мінулым роднага краю. Безумоўна, карысьць ад такога шчыльнага кантакту навукі і школы відавочны, і гэтую добрую традыцыю трэба разьвіваць і множыць.

Хацелася праз газэту падзякаваць усіх вучняў, хто прымаў удзел у раскопах, а таксама і іхных настаўнікаў: А.П.Аляхновіча, М.А.Баравулю, Я.А.Пушкіну. Спадзяемся, што кіраўніцтва раёну і надалей будзе садзейнічаць пашырэньню гэтай добрай і карыснай працы. У якасьці пажаданьня хацелася, каб кола вучняў-археолягаў было б больш шырэйшым, і тады асноўная маса дзяцей не глядзела б з зайздрасьцю на скаўтаў-краязнаўцаў, якія так адчувальна адрозьніваліся ад астатніх сваёй апантанай працай, паводзінамі, ведамі і любоўю да роднага краю. Дай Божа і назаўтра нам часьцей сустракацца і яшчэ лепш працаваць на карысьць нашай Бацькаўшчыны.

**В.Шадыра - заг.адзьдзела археалёгіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук**

СПАДЧЫНА

# “ВАЎКІ” НА ВЫСЬПЕ

**Гэта была наша другая скаўцкая вандроўка. Першым пунктам нашага маршруту зьявілялася вёска Буда, дзе мы запісалі цікавую легенду аб ейным паходжаньні.**

“... У сівую даўніну вакол былі раскіданыя панскія землі, і сялянам было вельмі далёка дабірацца да іх, каб сеяць, жаць. Вось пан і вырашыў паставіць тут буду, гэта значыць часовае жытло. А як ужо паставілі буду, дык і людзі пачалі сяліцца вакол стала, назаўседы... “

На вясковых могілках мы адшукалі цікавыя камяні з надпісамі і выявамі, а адзін зь іх вельмі зьдзівіў – надпіс на ім быў выбіты кірыліцай і па-польску (лацінкай). Перамаляваўшы выявы на камянёх мы рушылі далей. Нас чакала возера Сялява, а дакладней выспа пасярод яго. Калі мы, капьё “ваўкоў”, скаўтаў Малога Палесься, перахадзілі па пясчанай касе на выспу, над намі высока ў небе кружляў



чорны журавель – незабыўная прыгажосьць! Пакупаўшыся і папалуднаваўшы мы адправіліся знаеміцца з прыродаю выспы. Вялікія мурашнікі, безьліч розных прыгожых кветак сярод чароўнага лесу, карэльская бяроза, якая расьце толькі па берагох возера (гл.фота), “чортава балота” сярод выспы, сьпеў птушак, сонца і нябёсная цішыня падаліся нам цудоўнай казкай.

На беразе возера мы пачалі зьбіраць для нашай калекцыі розныя цікавыя каменьчыкі з адбіткамі рэшткаў жывёльнага і расьліннага сьвету міжледавіковага пэрыяду. А сабе на шчасьце кожны з нас знайшоў па некалькі каменьчыкаў “курынае вока” (зь дзірачкай унутры). Я знайшоў цэлых пяць – на ўсю сваю сям'ю. Незабыўная была вандроўка!

**Скаўт Алесь Гудзілін**

# КАМЕНЬ-КРАВЕЦ

**Якая цудоўная пара года лета! «Чаму лета?» – спытаецеся. З гонарам адказваю, гэта лета для мяне было самай незабыўнай і духоўнай парой у жыцьці.**

Скаўцкія паходы, археалягічныя раскопы, знаёмствы зь людзьмі, песьні Андрэя Мельнікава, фальклёр, які мы запісвалі ад бабулек, – зрабілі мяне іншым чалавекам. Я адкрыў для сябе невычэрпную крыніцу народнай мудрасьці – легенды й паданьні роднага краю. Адна зь іх – пра Камень-кравец – мне вельмі спадабалася: «Даўно гэта было. Жыў пад гэтым камянём кравец-шавец. З навакольных вёсак прыходзілі да яго людзі, прыносілі палатно і прасілі пашыць, напрыклад, кашулю ці нагавіцы. Але прасілі моўчкі, бо толькі думалі пра гэта ля камяня, а ўслых не прамаўлялі. І назаўтра прыходзілі і забіралі добра пашытае гатовае адзеньне. У падзяку за гэта прыносілі й пакідалі ля камяня ежу, пітво, грошы, ці проста казалі: «Дзякуй табе, шавец-кравец». І ніхто ніколі не бачыў яго. Аднойчы адзін маладзён у добрым падпітку прынес да камяня сваю тканіну і пачаў крычэць, каб кравец-шавец хутка пашыў яму самую прыгожую кашулю і пагражаў, і брыдкасловіў пры гэтым. Назаўтра, раніцой, прыйшоўшы да камяня і ўбачыўшы парэзаную ў ашмёцьце сваю тканіну, ён пачаў прасіць прабачэньня, але дарма. Кравец-шавец назаўсёды пакінуў гэты камень...»



*Казачны камень-кравец*

Я ведаю, што гэта выдумка, казка, але чамусьці хочацца падыйсьці да камяня і сказаць: «Прабач нас, кравец-шавец, за глупствы й дурноты!»

**Скаўт Андрусь Ермаловіч**

СПАДЧЫНА

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКАЎЦКІ ЛЕТНІК "ВІЛЕЙКА-2000"



**На абшарах нашай цудоўнай краіны шмат прыгожых мясьцінаў. Летась з 14 па 20 жніўня сем скаўтаў Малога Палесься на чале з кіраўніком харугвы прымалі ўдзел у нацыянальным скаўцкім летніку ў адной з маляўнічых мясьцінаў – на беразе Вілейскага вадасховішча.**

Зь Менску і Барысава, Вілейкі і Браслава, Крупак, Воршы і Маладэчна зьехаліся скаўты на свой штогадовы летнік. Праграма была вельмі насычаная і цікавая. Мы спаборнічалі ў арыентаваньні на мясцовасьці, дзе Крупкі ўдзельнічалі дзьвюма камандамі і занялі першае й... апошняе месца. Футбол, валейбол, паласа перашкодаў нікога не пакінулі абыякавымі. А скаўцкія гульні – "сонейка", "талерачка", "скаўцкі футбол", "стралец", "мая бабулька...", "фатограф" і безьліч іншых спадабаліся ўсім без выключэньня. Ну і, канешне, купаньне у возеры – гэта было супэр! Акрамя гэтага для нас і кіраўнікоў праводзіліся заняткі, на якіх мы вучыліся дапамагаць людзям, якія патрапілі ў бяду, выжываць у экстрэмальных сытуацыях, любіць, ведаць і берагчы прыроду, давяраць адзін аднаму.

Таксама мы зрабілі першую вандроўку ў Вілейку, дзе наведалі краязнаўчы музэй і пабывалі ў касьцёле. Вучыліся аказваць першую дапамогу і ныраць з аквалянгам на выратавальнай станцыі. Падчас летніка мы пасябравалі амаль з усімі камандамі скаўтаў. А вечарыны ля вогнішча пад гітару і сьпевы бардаў Андрэя Мельнікава і Ігара Мухіна проста нельга забыць! І, канешне, ніякімі словамі не абмалюеш смак кашы з "дымком!"

Былі ў нас і сапраўдныя, незаплянаваныя прыгоды, калі а чацьвертай раніцы мясцовыя хуліганы паспрабавалі скрасьці нашыя рэчы. Была сапраўдная пагоня на чале з канцлерам Кастусём Хадыкам, у выніку якой злодзеі былі ўзятыя ў палон і... урэшце рэшт кампэнсавалі нашыя матар'яльныя страты.

Таксама запомніліся начныя вахты і трэніроўкі, дзяжурствы па кухні і нарыхтоўка дроваў. Мы на практыцы зразумелі, што значаць словы: "Скаўт загартоўвае моцны характар!" Запомнілася імша (малітва) за Беларусь, асабліва калі напрыканцы мы грамадой сьпявалі "Магутны Божа". Якія сьветлыя твары былі ў нашых сяброў!

У апошні дзень скаўты Вілейкі зрабілі сапраўдную скаўцкую тарзанку" "Супэр-8", і кожны з нас пранёсься на ёй зь бязьмернымі пачуцьцямі жаху і радасьці адначасова. Адным словам – вельмі цяжка было разьвітацца з новымі сябрамі. Мы ледзь не "патанулі" у сьлязох, але надзея на сустрэчу ў апошні момант выратавала ўсіх. Бывай Вілейка-2000!

**Скаўты Генадзь Кульгавы, Наста Хадасевіч, Рыгор Гліньнік**

# ПРЫЁМ У СКАЎТЫ

**Найбольш за ўсё мне спадабалася, як мы прымалі хлопчыкаў і дзяўчынак у скаўты. Для гэтага было знойдзена месца ў лесе непадалёк ад летніка.**

Увечары пасьля шыхтаваньня мы разам з канцлерам Кастусём Хадыкам пайшлі на тое месца і расклалі вогнішча. А потым пачалі чакаць хлопчыкаў і дзяўчынак, якія прыходзілі паасобку. Яны падыходзілі да Кастуся й адказвалі на яговыя пытаньні. Затым падыйшоўшы да сьцяга, які трымаў я, укленчыўшы, трымаючы левую руку на сэрцы, а правую – у скаўцкай лілеі на сьцязе, пачалі складаць прырачэньні. Потым да іх падыходзіў скаўт і завязваў гальштук. Далей ім давалі сьвечку, і яны станавіліся ў шыхт. Потым чакалі на наступнага.

Гэтак за вечар мы прынялі ў скаўты 20 чалавек. Мне гэта вельмі спадабалася. Але ў нас не абыйшлося бяз гумару. Нехта з шыхту пажартаваў, што сьвечку трэба надкусваць, і ўсе каму давалі сьвечку, надкусвалі яе. Гэта было вельмі сьмешна (тым больш, што гэтым жартаўнікам быў я).

**Скаўт Анатоль Кавалеўскі**

СПАДЧЫНА

# КРЫЖ У ЗАПУТКАХ

**У жніўні гэтага году мы былі ў паходзе па берагох возера Сялява. Дасьледвалі курганы ля вёсак Дубы, Прошыка і Запуткі.**

Непадалёк ад могілак вёскі Запуткі сустрэлі некалькі кабетаў, адна зь якіх, Кажамякіна Соф'я Анатолеўна, распавяла, што гэта вельмі старыя могілкі і хаваюць на іх з усіх навакольных вёсак, маўляў, "ад веку тут харонімся". У Запутках распаўсюджаныя прозьвішчы Кажамякіны, Шайтанавы, Арэхаўкі, Мірановічы.

Зацікаўленыя мы пачалі дасьледваць могілкі, і сапраўды, – колькасьць камянёў і крыжоў на іх, а таксама выявы і надпісы сьведчылі аб вельмі салідным "узросьце". На адным з камянёў мы прачыталі: "1801 ПАРФЕНУ" і дзьве выявы, – крыж: "†" і сакральны знак часоў паганства: "⍑". Гэта вельмі зьдзівіла, менавіта такое спалучэньне знакаў мы яшчэ не сустракалі. Далей на нас чакаў яшчэ адзін "сюрпрыз", – камненны крыж вялікіх памераў, прыблізна 1,20 м увышкі й 1 м упоперак. Вельмі зьдзівілі выявы, – у цэнтры выбіты крыж, а па бакох крыжыкі зь няўцямнымі малюнкамі на канцох (гл.фота).

Усяго ж на могільніку мы адшукалі тры каменных крыжы, 15 камянёў з выявамі і надпісамі і больш за 20 камянёў бяз надпісаў.

З гістарычных крыніцаў мы даведаліся, што ўпершыню вёска Запуткі згадваецца ў 1713 годзе. У ёй налічвалася 17 гаспадарак, 8 валок зямлі (1 валока – 21,36 га), а з 1772 году яна была ва ўласнасьці пана Салагуба. Адсюль мы можам меркаваць, што многім надпісам і выявам на камянёх каля 300 гадоў і болей.



**Скаўтка Любоў Аляхновіч**

# КАМЕННАЕ СОНЦА

**Асабіста мне надоўга запомніцца краязнаўчы скаўцкі зьлёт вясной гэтага году ля маляўнічай вёскі Знаменка. Упершыню ў сваім жыцьці я цэлых чатыры дні жыў у лесе разам зь сябрамі-скаўтамі.**

Мы стаялі летнікам у лесе на беразе невялічкай тутэйшай рачулкі непадалёк ад месца былога млына. Пастухі, што побач пасьвілі кароў, распавялі нам, што даўней тут жыў працавіты мельнік-млынар, стаяў вялікі млын і з усяго наваколься людзі прывозілі ураджай менавіта да гэтага млынара, бо той працаваў вельмі адказна і добрасумленна. Разам з нашымі кіраўнікамі Міхаілам Адамавічам Бараўулем і Андрэем Пятровічам Аляхновічам мы зрабілі разьведку гэтага месца і знайшлі вялізныя кавалкі камянёў, моцна парослыя травой. А адзін нават ляжаў на дне рэчкі і быў добра бачны ў празрыстай вадзе.

Пасьля нарады мы вырашылі выкапаць два самых вялікіх камяня і паставіць іх разам на беразе. Больш за гадзіну мы адкопвалі іх, потым з дапамогай даўгіх і крэпкіх паляў перасоўвалі і перакатвалі камяні на невялікі ўзгорак ля берага. Калі ж нашыя дзяўчаты нарэшце адмылі іх вадой, усе ўбачылі, што гэта ня проста звычайныя камяні, а два вялікіх кавалкі аднога агромністага жорана! Зсунуўшы іх разам мы ўбачылі дзіўны малюнак, – ад цэнтру ва ўсе бакі разыходзіліся канаўкі нібыта прамяні, і нехта сказаў: "Каменнае сонца!" Потым мы з задавальненьнем фатаграфаваліся з "сонцам", і ніхто не апёкся.

**Скаўт Алесь Зізіка**

*Каменнае сонца, якое мы выкапалі разам*



## ПАРНАС

### Ляксей Ручай
## ВАЯР

Звычка не скарацца –
Частка цябе.
У сэнс не ўглядацца –
Адказ у журбе.

Песьня зьяднае,
Дасьць забыцьцё.
Зноў перамагае
Біты жыцьцём.

Бязь ведама злобы
Ударыў меч.
Ты яму падобны,
Жаль гонячы прэч.

Толькі боязь страху
Цябе кране.
Толькі гонар сьцягу
Тут у цане.

Да сьмерці браму
Клічуць вайной.
Хлусьня будзе ўраньні
А зараз – бой.

### Уладзіслаў Явар
## НЕМАЎЛЯ

We always may be what
we might have been.
*Adelaide Anne Prokter*
Мы заўсёды можам стаць,
тым, чым маглі б стаць.
*Адэлаіда Ганна Проктэр*

Гонкім крыкам адзначае
Ў першы момант
пачуцьця,
Што ў жыцьцё яно
ўступае,
Нарадзіўшыся, дзіця.

Грудзі маці абдымае,
Ціха смокча немаўля,
А яна яго люляе –
Нібы хвалі карабля.

Сьпі, мой сынку, сьпі мой
мілы,
Люлі люлюшкі люлі,
Яшчэ прыйдуць к табе
сілы,
Мова роднае зямлі.



Мова у сябе ўвабрала
Шэпат тоненькіх бяроз
Роў зубра апанавала,
Звон касы у сенакос,

Сьпевы птушак, гоман
лесу,
Сумны пераліў званоў,
Пляск ад хваляў ў пясок
плесу
І яшчэ шмат гукаў-слоў.

Хай цябе бароне Божа
Ад усіх благіх спакус,
Край твой з Буга і да
Сожа
Край твой, хлопча-
беларус.

Яшчэ ўздыміцца, ня
сконе,
На увесь радны абсяг,
Стары сымбаль наш
Пагоня,
Бел-чырвона-белы сьцяг.

Сьпі мой сыначку
прыгожы,
Я табою ганарусь,
Йшчэ сьпяем «Магутны
Божа»,
Адрадзіцца Беларусь.

## ПАСЬМЯЕМСЯ?

Крупкі. Бацька хвошча самагонку. Сын-скаўт падыходзіць, нюхае, крывіць нос:
– Фу, якая брыдота!
– А ты думаў, бацька мёд пье?

На скаўцкім летніку Аляхновіч тлумачыць навічку:
– Ніхто з нашых ня паліць!
– Не хвалюйцеся, Андрэй Пятровіч, цыгарэты я з сабой прынес.

-Які ты малайчына, Кастусь! Выцягнуў з палонкі свайго сябра!
– Разумееце, – адказвае Кастусь, – ён нацёг мае канькі!



## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Абадранец** – бульбяны блінчык (дранік);
**Абанэмент** – любы чалавек, акрамя міліцыянта;
**Абдзіралаўка** – дзяржаўная гандлёвая кропка (лаўка);
**Абматаць** – абазваць нецэнзурнымі словамі;
**Байкот** – кот «Барсік»;
**Бульбасаджалка** – міліцыя ў Беларусі;
**Ваданос** – грып (хвароба);
**Гадзіна** – дрэнная Зіна;
**Гайдамак** – наркаман у лесе;
**Дамастрой** – жаночая дэманстрацыя;
**Дарма** – няма таленту;
**Дасьпехі** – няма часу, няма калі;
**Дачасны** – мара аб дачы, лецішчы;
**Завабіць** – біць адказнага таварыша;
**Задума** – думаць ня тым месцам;
**Залежы** – сталоўка;
**Заклапочаны** – пакой, у якім шмат клапоў;
**Зубрыла** – баба Яга;
**Катаклізмы** – зброя ката (мэдычная);
**Мэтафара** – сіняк пад вокам;
**Надпіс** – пуп;
**Папалохваць** – абдурыць папа;
**Паперамена** – валютчык;
**Паражэнец** – жаніх;
**Парасон** – адбой (у войску);
**Паступовы** – кепскі пас у футболе.

**Уладзіслаў Явар**

Малое ПАЛЕСЬСЕ
РЭДАКЦЫЯ
тэл. (01796) 56896
222010, Крупкі, Кутузава'7
e-mail:mp@crossrd.org.by
Галоўная рэдактарка:
Марыя Бруніч
Шыхтоўля: Андрусь Гмыза
НАКЛАД 150 асобнікаў



Газэта "Малое ПАЛЕСЬСЕ" выказвае падзяку Барысаўскаму цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне" за тэхнічную падтрымку.